# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 23 (536) Год XI 5 ЧЭРВЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр.


# ПАД РАЗВАГУ

Сярод сродкаў і форм масавага пераказу ведаў г. зн. асветы і культуры да шырокіх мас важнае, а мо галоўнае месца займае кніжка і прэса. Кніжка здабыла сабе аўтарытэт, а яе любіцеляў — чытачоў пабольшваецца. Нават для далейшага пашырэння чытальніцтва кніжак не перашкаджае так цяпер папулярны тэлевізар. Аб гэтым сведчаць наступныя факты: калі ў 1964 годзе лік здабытых чытачоў ва ўсіх публічных бібліятэках і бібліятэчных пунктах Беласточчыны ў сярэднім выносіў 17,1% у адносінах да агулу насельніцтва ваяводства, то за 1965 год узрос ён звыш 20%. А гэта ўжо вялікія дасягненні.

Здаецца няма ў тым нічога дзіўнага, калі рэальна глядзець на наш час, у якім жывем. І сапраўды, многія чытаюць кніжкі, бо вучацца ці пашыраюць здабытыя веды ў розных школах. Многія праз пашырэнне ведаў з кніжак стараюцца датрымаць кроку дынамічнаму развіццю навукі і тэхнікі — шпарка паступаючай цывілізацыі. Іншыя чытаюць як любіцелі кніжак, для культурнага адпачынку і г. д. Але ёсць і такая праўда, хаця яна горкая, што большасць сяброў і сяброўак вёскі ці меншых гарадоў нічога не чытаюць, а таму адстаюць ад жыцця, ад кроку ўперад. Таму кніжку заўсёды і няспынна трэба прапагаваць, хаця гэта не так простая і не лёгкая справа.

Гэта ведаюць і бібліятэкары, і вышэйшыя ўлады публічных бібліятэк і шматлікія іншыя прадпрыемствы і арганізацыі пакліканыя да культурна-асветнай дзейнасці. І не толькі ведаюць, яны многа памагаюць бібліятэкарам у далейшым пашырэнні чытальніцтва кніжак рознымі спосабамі, такімі як: арганізаванне розных конкурсаў і здабыванне фінансавых сродкаў за пэўныя дасягненні, арганізаванне розных шкаленяў бібліятэкараў і кіраўнікоў бібліятэчных пунктаў, падборка кадры і многа іншых форм і спосабаў, каб здабываць штораз больш чытачоў.

Зусім інакш выглядае чытальніцтва кніжак на беларускай мове. Яно не пашыраецца, але часткова зменшваецца, хаця і так вельмі малы працэнт чытачоў чытае кніжкі на беларускай мове ў адносінах да ліку беларускага насельніцтва. А вось прыклад з Бельскага павета. У 1965 годзе было 16964 чытачоў агулам усіх узятых, што складае 23,2% у адносінах да агулу насельніцтва ў павеце. У тым ліку было 1610 чытачоў тых, якія між іншым чыталі і кніжкі на беларускай мове. Складае гэта каля 5% у адносінах да колькасці беларускага насельніцтва ў Бельскім павеце. Кніжак у гэтым жа годзе агулам выпазычана 251 597, у тым на беларускай мове — 7335, што складае няцэлых 3% да агульнага ліку выпазычанняў.

Гэта ў Бельскім павеце, у тым, у якім непараўнальна да іншых паветаў найбольшыя дасягненні ў распаўсюджванні чытальніцтва кніжак на беларускай мове. А як занядбана гэта справа ў іншых 5—6 паветах Беласточчыны сцвярджае той факт, што лік 1610 чытачоў і лік 7335 выпазычанняў у Бельскім павеце складае амаль палавіну ўсіх разам узятых чытачоў беларускай кніжкі і выпазычанняў у Беластоцкім ваяводстве. Дацэньваючы ролю чытальніцтва кніжкі і прэсы ў наш час хацеў бы, каб гэтыя вышэй паданыя статыстычныя даныя не бачыць як артыкул песімізму, але каб яны сталіся для ўсяго актыву БГКТ, для ўсіх бібліятэкараў трывожным сігналам.

Гэтага агромнага недахопу ў культурна-асветнай працы, да якой паклікана БГКТ, на жаль, ніхто не хоча бачыць, а як бачыць, то не хоча яе закранаць. Але вельмі добра сталася, што Нацыянальная камісія Ваяводскага камітэта ПАРП на сваім пасяджэнні нам усім падсказала, (ці прыпомніла), што на гэтым адрэзку культурна-асветнай працы маем вялікія недахопы.

Дзе ляжыць прычына гэтага недахопу? Па-першае, мае важнае значэнне тое, што ў бібліятэках няма дастатковай колькасці кніжак з адпаведнай тэматыкай, дык і з тых што ёсць, многія ўжо перастарэлыя. А яшчэ горш, што ў 1965 г. нельга было наогул купіць кніжак на беларускай мове ў бібліятэкі.

Па-другое, і то вельмі важнае, а мо галоўнае, што распаўсюджванне кніжкі на беларускай мове здана на ласку і не ласку бібліятэкараў і то не рэдка такіх, якія не ўмеюць чытаць альбо не хочуць кніжак на беларускай мове, а таму не ведаючы зместу кніжкі няма магчымасці яе прапагаваць. Трэба, каб увесь актыў БГКТ, пачынаючы ад гурткоў, Павятовыя аддзелы на чале з ГП БГКТ у сваіх планах і культурна-асветнай працы прызналі для кніжкі і яе папулярызацыі прыярытэт.

Мне здаецца, што пад кіраўніцтвам ГП БГКТ павінна адбыцца дакладнае падсумаванне нашых дасягненняў і недахопаў у галіне к.а. працы з галоўным падкрэсленнем чытальніцтва кніжкі і прэсы і накрэсліць на новы к.-асв. год 1966/1967 мерапрыемствы, якія павінны прычыніцца да ліквідацыі паўсталых недахопаў у галіне развіцця чытальніцтва кніжак на бел. мове.

На маю думку трэба апрацаваць і ўвесці форму шкаленя бібліятэкараў (асобныя семінары), трэба арганізаваць розныя конкурсы, а ў больш актыўных гуртках БГКТ арганізаваць праблемныя чытальніцкія калектывы. Гэтыя і іншыя формы памогуць нам выйсці з маразму, які апанаваў так важную галіну распаўсюджвання ведаў, асветы і культуры сярод дарослых пры дапамозе кніжак.

АРЦЁМ ЧЫКВІН
кіраўнік Павятовай бібліятэкі ў Бельску.

# ЛЁС АБСАЛЬВЕНТАЎ СПР

Безумоўна, лёс іх розны. Некаторыя гавораць, што вучні тут знайшліся на тое, каб перачакаць няўдачу, якая спаткала іх на ўступных экзаменах у іншай школе, і на другі год будуць шукаць лепшую школу.

СПР у Орлі ад 1962 года па 1965 г. выпусціла 66 абсальвентаў. Найменшая іх колькасць — 9 была ў 1964 годзе, найбольшая — 23 у 1965. Абсальвенты працуюць на гаспадарцы пры бацьках (34,8%), 7 асоб працуе ў прадпрыемствах звязаных з сельскай гаспадаркай, 10 асоб працуе па-за сельскай гаспадаркай у тым 2 пекараў і 5 шафёраў. Іншыя вучацца. І так 11 у 3-гадовым Тэхнікуме для абсальвентаў СПР, 1 у завочным сельгастэхнікуме, 10 у школах агароднічых, сельскагаспадарчых рахункаводаў, меліярацыйных, 4 у іншых школах. Хай чытач прабачыць за нудныя лічбы, але кожны з іх — гэта асобная тэма. Закрану толькі некаторыя з іх. Ці гэтыя лічбы цешаць? Напэўна так. Як бачым, у асноўным моладзь застаецца гаспадарыць або звязана з ёю. Як вынікае з назіранняў школы моладзь астаецца гаспадарыць там, дзе гаспадарка больш інтэнсіўная. Напрыклад, у Шэрнях многія займаюцца агароднінай, і тут перад усім застаюцца абсальвенты. А калі возьмем пад увагу велічыню гаспадаркі ў бацькоў паасобных вучняў і колькасць сям'і на гаспадарцы, дык даныя амаль захапляючыя. Бацькі 83,3% абсальвентаў маюць да 10 гектараў зямлі, а толькі 0,6% больш як дзесяць, апошнія беззямельныя. Яшчэ больш апраўдаем нашае задавальненне, калі дадамо, што 63,6% абсальвентаў мае сем'і ад 3 да 7 чалавек. З вышэй прыведзенага вынікае, што не ўсе могуць застацца на гаспадарцы. Але ёсць справы, якія нас непакояць. Няма аніводнага абсальвента, які б самастойна гаспадарыў. Можа яшчэ за маладыя.

Але хіба не толькі ў тым справа. Прычыны тут выходзяць ужо па-за рамкі школы. Здаецца, што асяроддзе далей не дацэньвае перамен і гэтых людзей — абсальвентаў СПР. Сярод успамянутай групы абсальвентаў 43 асобы — гэта члены ЗМВ, якія ў школе праяўлялі актыўнасць, былі членамі праўленняў, старшынямі, сакратарамі, скарбнікамі. Але не бачылі іх у вёсцы. Ні адзін з іх не з'яўляецца радным, солтысам ці прэзасам сельгасгуртка. А гэта ўжо справы зацікаўленых арганізацый і ўстаноў. Чаму мінаюць іх? Ці таксама ўпарта не хочуць бачыць іх уплыву на вёску? Школа далей вядзе пошукі, каб як мага лепш звязаць СПР з асяроддзем. Кіраўнік школы і настаўнік прафесіянальных прадметаў Яўген Леўчук неяк упрасілі мясцовае праўленне сельгасгуртка, каб прыняў апеку над школай. Не шукалі для гэтага багатай установы ўсё ж разыходзілася пра справу боль-

(Працяг на стар. 5)



САКОЛЬШЧЫНА.

ФОТА УЛ. ПАЎЛЮЧУК

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

■ У сувязі з выбарамі прэзідэнта ў Дамініканскай рэспубліцы падаем некаторыя інфармацыі аб гэтай краіне. Знаходзіцца яна ва ўсходняй частцы вострава Гаіці ў Сярэдняй Амерыцы, займае плошчу 48 тысяч квадратных кіламетраў і налічвае 3,5 мільёна насельніцтва. Этнічны састаў яго наступны: мулаты — 50%, крэолы — 30%, негры — 10% і іншыя.

Ад верасня 1963 года ўладу ў рэспубліцы пераняла цывільная юнта, якую кантралявала армія. Аднак 7. I. 1964 г. трохасабовая юнта ўвяла пэўныя змены ва ўрадзе, паклікаючы 5 беспартыйных міністраў. Гэтыя змены былі прычынай рознагалосся сярод буржуазных партый, якія дагэтуль стваралі юнту. Частка з іх перайшла да апазіцыі. У Дамінікане ёсць многа палітычных партый. Сем з іх прадстаўляе інтарэсы розных груп буржуазіі, хаця амаль пры кожнай ёсць слова «рэвалюцыйная» і левыя партыі: Народны дамініканскі рух, Рух 14-тага чэрвеня, Дамініканская народна-сацыялістычная партыя, якая паўстала ў 1942 годзе на базе Камуністычнай партыі Дамініканы.

Дамінікана з'яўляецца краінай адсталай сельскай гаспадаркі, з якой утрымоўваецца 80% насельніцтва. Асноўная іх колькасць мае палоскі да 2-х гектараў зямлі. Іменна таму першапланавай справай з'яўляецца тут зямельная рэформа. Дамінікана экспартуе какао, цукар (з цукровага трыснягу), каву, бананы. Рудніковая прамысловасць вельмі слаба развітая, а тая, якая ёсць, апанаваная амерыканскім капіталам. Асноўным кантрагентам у гандлю з'яўляецца ЗША: 50% вывозіцца, а 70% імпартуецца. Выбары, якія адбыліся, не развяжуць справы, пакуль амерыканская армія будзе акупаваць гэтую краіну.

■ Англійская калонія Гвіяна атрымала незалежнасць. Але многае сведчыць аб тым, што гэтая незалежнасць будзе пакуль што толькі намінальная. У гэтым пераконваюць падзеі, якія разыгрываюцца там на працягу апошніх гадоў. Барацьбу за незалежнасць узначальвае тут самая масавая ў краіне партыя — народна-прагрэсіўная. Была яна створана ў 1950 годзе і выступае за развіццё краіны па некапіталістычным шляху. Такая палітыка выклікала варожыя адносіны ЗША і Англіі. Каб падарваць адзінства сіл, якія змагаюцца за незалежнасць, імперыялісты пачалі раздуваць нацыянальную і расавую варожасць паміж гвіянцамі індыйскага і афрыканскага паходжання. У выніку краіна, якая ніколі раней не ведала расавых канфліктаў, аказалася падзелена на два варожыя лагеры, паміж якімі ўспыхвалі крывавыя сутыкненні. Мяркуецца, што Англія пасля многіх дзесяцігоддзяў гаспадаравання ўмывае рукі і хоча аддаць «на з'яданне больш моцнаму драпежніку — амерыканскаму імперыялізму».

■ У Перу з кожнай тысячы дзяцей, якія нарадзіліся, памірае 86. Як паведамляюць з Лімы, Перу — адна з краін з самай высокай дзіцячай смяротнасцю.

**А. К.**

## БССР

### ДЭМАКРАТЫЗМ

18 мая г. г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Між іншым, сцверджана, што... «лепш пачалі захоўвацца дэмакратычныя прынцыпы ў рабоце Саветаў» ...«Работа Саветаў стала больш публічнай».

### УКАЗ

15 мая г. г. беларускія газеты апублікавалі ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб назначэнні Анатоля **Гурыновіча** міністрам заграннічных спраў Беларускай ССР — на месца дагэтуляшняга міністра Кісялёва.

### ВЫБАРЫ

Неўзабаве адбудуцца выбары дэпутатаў у Вярхоўны Савет Саюза ССР. Мінская гарадская першая выбарчая акруга высунула кандыдатам у дэпутаты беларуса Кірыла Мазурава, які з'яўляецца першым віцэ-прэм'ерам Саюза ССР і членам Палітычнага Бюро ЦК КПСС.

### МАЛАВЯДОМЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

Нядаўна ў Дзяржаўнай бібліятэцы Беларускай ССР выяўлена друкаваныя матэрыялы наконт дзейнасці царскай паліцыі, якая пры дапамозе завербаваных агентаў дакладна распрацоўвала рускі рэвалюцыйны рух. У гэтых паліцэйскіх матэрыялах ёсць падрабязныя інфармацыі аб дзейнасці Леніна і яго сяброў. Раз на 10 або 20 дзён дэпартамент паліцыі Міністэрства ўнутраных спраў складаў падрабязныя даныя, якія тагачасны міністр унутраных спраў рэгулярна перадаваў цару Мікалаю II-му.

### АЎТАМАТ РЫСУЕ

У Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі Беларускай Акадэміі навук сканструявана аўтамат — чарцёжнік з электронавым «мазгом». Гэты аўтамат здольны выканаць за вельмі кароткі час тэхнічны рысунак элементаў машын.

### ПРАФЕСАР Ф. ЦІХІ

У цэнтральнай беларускай газеце «Звязда» надрукавана нататку пра дзейнасць прапагандыста беларускай літаратуры ў Чэхаславакіі прафесара Францішка Ціхага, які яшчэ ў даваенны час пераклаў на чэшскую мову творы класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама шмат твораў выдатнага беларускага пісьменніка і дзяржаўнага дзеяча Цішкі Гартнага — Жылуновіча, і шмат іншых беларускіх паэтаў ды празаікаў. У канцы трыццатых гадоў прафесар Ф. Ціхі наведаў Заходнюю Беларусь.

### КНІЖНЫ БАЛЬ

У Бабруйску адбыўся «Кніжны баль». У якасці запрашэння на баль служыла кніжка купленая пры ўваходзе на баль. На балю сабралася звыш 800 асоб. Адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці, кніжная латарэя, паэтычны турнір ды іншыя атракцыі.

Хто ведае, ці гэта бабруйская імпрэза не аказалася б прыдатнай і ў дзейнасці нашых гарадскіх аддзелаў БГКТ.

**(СЯ)**

## ПОЛЬШЧА

### ЛЮДОВАЕ СВЯТА

Цэнтральныя ўрачыстасці ў сувязі са святам людовым адбыліся ў суботу, 28 мая ў сталіцы Любускай зямлі. У Зялёную Гуру прыехалі прадстаўнікі Вроцлаўскага, Познанскага, Апольскага, Шчэцінскага і Кашалінскага ваяводстваў. З прамовай выступіў старшыня Галоўнага Камітэта Аб'яднанага стронніцтва людовага — Чэслаў Выцэх.

### ДЗЕЦІ — ДЗЕЦЯМ

Вучні варшаўскай пачатковай школы № 13 заклікаюць сваіх сяброў з усяе краіны, каб збіралі падарункі в'етнамскім школьнікам. Дзіцячы сход, на якім яны прынялі гэты заклік, адбыўся з нагоды Міжнароднага дня дзіцяці. На ім прысутныя былі прадстаўнікі Пасольства Дэмакратычнай В'етнамскай Рэспублікі і Польшчы.

### 20-ГОДДЗЕ «РАКІТЫ»

«Ракіта» — гэта вялікі хімічны завод у горадзе Бжэг Дольны на Ніжнім Шлёнску. Яго будову распачалі яшчэ немцы ў 1940 годзе. У першых цэхах завода працавалі вязні аднаго з філіялаў канцлагера Грос-Розен. Завод тады выпускаў баявыя атручваючыя газы.

Першая група польскіх рабочых з'явілася ў «Ракіце»яшчэ ў 1945 годзе, а годам пазней адбудаваны завод пачаў даваць ужо прадукцыю. Зараз «Ракіта» прадукуе, між іншым, хімікаты для барацьбы з пустазеллем і сродкі для гарбавання скуры. Разам звыш 100 розных прадуктаў.

### КАПРЫЗНАЯ ПАГОДА

Канец месяца мая напамінаў у нас раннюю вясну. Вось у суботу 29 мая найвышэйшую тэмпературу — 14 градусаў — аднатавана на Беласточчыне. У цэнтральных раёнах Польшчы было яшчэ халадней, бо 8—11 градусаў, а ў Гданьску — ледзь 7 градусаў. Холадна не толькі ў нас, але амаль ва ўсёй Еўропе.

Для сялян холад, на шчасце, не пашкодзіць. Пахаладанню спадарожнічаў дождж, што спрыяла ўраджаю. Спецыялісты ад пагоды — метэаролагі — прадбачваюць, што чэрвень будзе шмат цяплейшы ад мая, а нават цяплейшы чымсьці звычайна бывае. Пахаладае крыху недзе каля 20-га чэрвеня, але канец месяца зноў мае быць цёплы і сонечны. Важна гэта з увагі на сенакосы.

### ДЗІЎНАЯ ТРАГЕДЫЯ

У адным памяшканні ПГР Борнін, Шчэцінскага ваяводства, здарылася вельмі дзіўная трагедыя. У пакоі, дзе стаяў тэлевізар, знаходзілася двое маленькіх дзяцей. Маці на нейкі час аставіла іх адных, а сама пайшла ў кухню. Раптам раздаўся магутны ўзрыў, і цэлы дом напоўніўся дымам. Старэйшае дзіця ляжала на падлозе без жыцця, яно было чорнае як вугаль, а малодшае пацярпела шматзначныя параненні. З тэлевізара засталіся толькі жалезныя асмаленыя абломкі. Найлепшыя знатакі не змаглі выясніць прычыны загадкавай трагедыі. Яны гавораць, што наступіла замыканне (зварце) электрычных правадоў.

## ВАЯВОДСТВА

**Да IV з'езда сельгасгурткоў Гайнаўшчыны**

### НАШЫ ДАСЯГНЕННІ І НЕДАХОПЫ

Зараз дзейнічае на Гайнаўшчыне 101 сельскагаспадарчы гурток, якія ахопліваюць 108 вёсак і аб'ядноўваюць 2819 членаў. Калі колькасць гурткоў у параўнанні да вёсак ёсць яшчэ не такая дрэнная, то членаў у гуртках замала. Ёсць такія сельскагаспадарчыя гурткі, як Дубічы Царкоўныя, Сакі, Кляшчэлі, Новаберазова дзе большая палавіна вёскі з'яўляецца членамі, але ёсць і такія, як Альхоўка, Скупава, Міклашэва і інш., дзе гурток налічвае 15—20 членаў, а ў вёсцы жыве 80—100 гаспадароў. Сельскагаспарчыя гурткі, якія аб'ядноўваюць 12—15 членаў, хаця б і вялі добрую гаспадарчую дзейнасць не пашыраючы арганізацыйнага ліку колькасці членаў, пераходзяць у прыватныя гурткі характару элітарнага, а гэта ўжо супрацьпастаўленне ідэям, якімі ёсць іх масавасць. Найбольшы даход выпрацавалі такія гурткі, як Курашава (145 тысяч зл), Кляшчэлі (140 тысяч зл), Сакі (127 тысяч зл), Горнае (93 тыс. зл). Але не толькі механізацыя ў сельскагаспадарчых гуртках павінна быць найважнейшай. На гэтую сельскую арганізацыю прыпадае задача арганізацыйнага кіраўніцтва адносна павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі і павышэння ўзраўня спосабу гаспадаравання. Механізацыя ў гуртках з'яўляецца толькі адным з інструментаў, які памагае хутчэй і спраўней выканаць сельскагаспадарчыя працы. Таму VI-ты з'езд дэлегатаў сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы на парадак дня ставіць такія праблемы: як павышэнне прадукцыі збожжа, палепшанне гадоўлі і забеспячэння пашы, павышэння ўзраўня сельскагаспадарчых ведаў усіх сялян, як далей гаспадарыць грамадскай механізацыяй. Ёсць у нас яшчэ шмат зямлі не загаспадараванай і шмат кепска загаспадараванай. І тут задача для сельскагаспадарчых гурткоў: пераняць землі апушчаныя пад супольнае загаспадараванне. У мінулым годзе выйшла пастанова аб павышэнні цаны на збожжа і аб пашырэнні кантрактацыі на ўсе віды збожжа. Гэта стварыла рэальныя магчымасці пашырэння пасеву збожжа, асабліва жыта. Праз кантрактацыю сяляне забяспечваюцца мінеральнымі ўгнаеннямі і прамысловай пашай для жывёлы. Сельскагаспадарчыя гурткі павінны ўзяць у свае рукі справу кантрактацыі і накіраваць яе ў тыя гаспадарствы, дзе будзе найлепшы эканамічны эфект.

Наступная праблема — гэта пашырэнне гадоўлі і прадукцыя большай колькасці добрай пашы. Трэба пашыраць трактарныя саставы праз пакупку машын да гаспадаркі на сенажацях, як: касілкі, валы, зграбяркі, механічныя сушарні. Дазволіць гэта сабраць хутка без вялікіх страт сена, якое мае найбольшае значэнне ў гадоўлі быдла.

**(Працяг на стар. 4)**

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 5.VI.

9.25 Program dnia; 9.30 „Leningrad" — „Zapomniane miejsce" (Leningrad); 10.00 Dla dzieci: „Szukamy piosenek dla dzieci" (Praga); 10.45 Kalendarz Rolniczy; 11.30 Film („Geografia Rozrywki"); 12.15 Wiad. dz. tv; 12.20 „Bawcie się z nami" — koncert; 13.05 „Maudis" — film (grecki); 13.50 „Jedziemy na łów"; 14.05 „Rysunkowe przygody" — film; 14.30 Dla dzieci: „Ula z II b"; 14.50 PKF; 15.00 Koncert laureatów II Konkursu Piosenki Radzieckiej w Zielonej Górze; 15.40 „Świat, obyczaje, polityka"; 16.00 TV Teatr Niedzielny: „Awantura w Chioggi" — C. Goldoni'ego; 17.00 „Ludzie i zdarzenia"; 17.15 „Irena i inne" (ballady murzyńskie, kanadyjskie, amerykańskie) — program rozrywkowy. Wykonawcy: F. Elkana, I. Cembrzyńska, K. Jędrusik, Ł. Prus, M. Kociniak, J. Kobuszewski, G. Lutkiewicz, T. Pluciński. Program prowadzi — L. Kydryński; 18.05 „Straceńcy" — film („Bonanza"); 19.00 „Słownik Wyrazów Obcych"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Spotkanie w St. Louis" — film fab. USA od lat 14; 21.45 „Śpiewa Zofia Kamińska"; 22.00 „Niedziela Sportowa".

PONIEDZIAŁEK, 6.VI.

16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd" — film; 17.15 Dla młodych widzów: „Z busolą na szlak"; 17.35 „Z myślą o maturzystach" („7 milionów młodych"); 17.50 „Osiem wieków Bibic"; 18.15 „Eureka"; 18.45 „Spacerkiem po kinach"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Teatr TV: „Powrót do Lizbony" Güntera Eicha. Wykonawcy: N. Andrycz, Z. Małynicz, M. Klejdysz, J. Wołłejkówna, T. Białoszczyński, J. Ciecierski, W. Kmicik, M. Pawlikowski; ok. 21.00 „Na półkach księgarskich"; 21.10 „Kronika kulturalna"; 21.30 Dziennik TV; 21.40 20 lekcja języka angielskiego.

WTOREK, 7.VI.

9.55 Dla szkół (kl. IX). Język polski — W. Szekspir „Sen nocy letniej" („Dzieje dramatu"); 10.30 „Opowieść znad Donu", film fab. radz.; 12.00 Przerwa; 16.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka (prawo załamania światła). Wykładowca: doc. B. Karczewski; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś"; 17.20 Dla młodych widzów: „Fizyka na piątkę"; 17.50 „Na morskich szlakach"; 18.15 „Śladami Pitagorasa" — teleturniej; 18.45 „Informator turystyczny"; 18.55 „Spotkania z przyrodą"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Zbuntowani znad Tamizy" — film Tele-AR; 20.15 „Opowieść znad Donu" — film fab. radz.; 21.45 „Z kart historii". Przed kamerą prof. dr K. Grzybowski; 22.05 Dziennik TV; 22.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka (prawo załamania światła). Wykładowca: doc. B. Karczewski; 22.45 20 lekcja jęz. franc.

ŚRODA, 8.VI.

10.00 „Coś na deszczowy dzień" — film („Baron"); 10.55 Dla szkół (kl. VII). Fizyka: „Świat dźwięku"; 11.25 Przerwa; 16.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. (Kula. Powierzchnia kulista, objętość kuli). Wykładowca — dr R. Krasnodębski; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla młodych widzów: Teatr Jednego Aktora — J. E. Kucharski „Ojciec i syn"; 17.25 „Na zdrowie"; 17.45 PKF; 17.55 „Tygodnik wiejski" — „Zielone perspektywy"; 18.20 „Sylwetki X Muzy"; 18.50 Wszechnica TV: „Miasto przyszłości"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Coś na deszczowy dzień" — film („Baron"); 21.05 „Światowid" — magazyn wydarzeń międzynarodowych; 21.30 Program muzyczno-baletowy p.t. „Arabeska". Wykonawcy: W. Niewiarowska — fortepian, V. Hass — harfa, B. Olkusznik i S. Szymański — taniec; 21.55 Program poetycki z Festiwalu Poezji K. I. Gałczyńskiego; 22.20 Dziennik TV; 22.30 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka. (Kula. Powierzchnia kulista, objętość kuli). Wykładowca: dr R. Krasnodębski; 23.00 20 lekcja jęz. ros.

CZWARTEK, 9.VI.

7.40 Program dnia; 7.45 „Flip i Flap w Oxfordzie", film komediowy; 8.45 Kino „Przygoda": „Wakacje z kucykiem" — film fab. CSRS; 10.10 „Zasadzka" — film („Bonanza"); 11.00 Sprawozdanie sportowe; W przerwie, ok. 11.45 — Wiad. dz. TV; 12.55 Gra Polska Kapela pod dyr. Feliksa Dzierżanowskiego; 13.25 „Wacuś" — film pol. (archiwalny); 14.25 „Nie tylko dla pań"; 14.50 Dla dzieci: „Pleciugowe piosenki". Reż. — W. Dobrowolski, reż. tv — J. Burski. Wystąpi zespół Państwowego Teatru Lalek „Pleciuga" w Szczecinie; 15.15 „Bangkok" — film („Geografia rozrywki"); 15.50 „Gawędy wilków morskich"; 16.10 „Cowboy" — film fab. USA; 17.40 I. Orland — „Mare polonicum" — wid. poet.; 18.20 „Sonda" — teleturniej; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. tel.; 20.00 „Listy śpiewające". Wykonawcy: B. Ludwiżanka, A. Prucnal, H. Boukołowski, D. Olbrychski; 21.00 „Tańczy Magdalena Pepa" — laureatka złotego medalu na konkursie tańca solowego w Paryżu (Bukareszt); 21.30 Wiadomości sportowe; 21.40 „Trzynasty anonim" — film fab. USA od lat 16.

PIĄTEK, 10.VI.

16.30 20 lekcja jęz. ang.; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Czarodziejski dywan". Wystąpią: M. Dzienisiewicz i Piotruś Fijewski; 17.20 Reportaż z Festiwalu Filmów Krótkometrażowych w Krakowie; 17.50 Informator handlowy; 18.00 „Poligon"; 18.30 „Wielokropek"; 18.50 Wszechnica TV: „Czy Państwo lubią matematykę"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. tel.; 20.00 „Z kamerą po kraju"; 20.20 „Pasja życia" — film fab. USA; 22.25 „10 minut recenzji"; 22.30 Dz. tel.; 22.40 Publicystyka kulturalna.

SOBOTA, 11.VI.

9.55 Dla szkół (kl. VII). Zoologia — „Ochrona przyrody"; 10.25 „Strzał we mgle" — film fab. radz.; 11.55 Przerwa; 15.55 20-ta lekcja jęz. ros.; 16.10 Program dnia; 16.15 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.40 Program tygodnia; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla młodych widzów: Konkurs „5 milionów" — finał 1965/66; 18.00 „Zdarzenia i... człowiek" — rep. filmowy; 18.20 „Po szóstej" — TV Klub Młodzieżowy; 19.00 „Tarnów" — rep. film.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Cyrkowy wóz" — program rozrywkowy; 21.00 Dziennik TV; 21.15 Wiadomości sportowe; 21.25 „Strzał we mgle" — film fab. radz.; 22.55 Program filmowy.

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ №. 90

## БАЦЬКУ СВАЙМУ ПРЫСВЯЧАЮ

Як заўсёды ля хаты дзядзькі Рыгора гурток моладзі. Расселіся хто дзе, і не даюць старому спакою. Асабліва прыліпаюць дзяўчаты. — «Дзядзенька! А! Дзядзенька! Расказалі б нам што»... Сівы, шыракаплечы Рыгор выглядае сярод іхніх, расцвіўшых усімі колерамі веснавых сукенак, як тугі пакрыты замаразкам грыб баравік, які няведамая сіла ўткнула ў букет кветак. — «Дык не ведаю пра што», — спрабуе ён аднеквацца. — «А вы, дзядзенька, пра каханне», — запішчала раптам Люба і, глянуўшы на Рыгоравага ўнука Слаўку, чамусьці засаромелася і апусціла вочы.

— «Кахання вам захацелася, стракатухі?» — спытаў Рыгор. — — «Ну, добра! Раскажу вам пра тую, якая першай маё сэрца паланіла. Пра тую, якую я ўсё жыццё кахаў і да астатніх дзён кахаць буду. З усіх найхарашэйшую. Адзіную!» — «Гэта вы, дзядзенька, пра цёцю Алесю?» — пачалі пытаць дзяўчаты.

— «О не, дзеткі! І хоць яна ў мяне, як ведаеце, баба з норавам. Ды і раўнівая калісьці была надта. То гэтае каханне заўсёды мне выбачала. А цяпер цыц! Не перашкаджайце. Ад маленства я яе ведаў, дзеткі», -- пачаў Рыгор. — «Ад маленства яе назіраў. Ніколі амаль з ёю не расставаўся. А пакахаць пакахаў шмат пазней. Зненароку. Рыбу вудзячы. Ой і любіў жа ж я ў маладосці гэта заняцце. А Нарва ж у нас блізка. Зараз за хатамі. Сядзеш, бывала, пад вечар недзе ля кусціка. Закінеш вудачкі. Сыпнеш жменю прынады. Ды і сочыш за паплаўкамі. Пачырванеўшае сонца засланяецца небасхілам, быццам засаромлены дзявочы тварык хусткаю. Навокал цішыня, цішыня. Адно толькі хвалі гойдаюць паплаўкі, бармочуць без перапынку нешта сваё, незразумелае, а прытым цудоўнае. Сядзіш як заваражаны. А хвалі ўсё бягуць і бягуць адна за адною. Усё далей і далей. Каб урэшце згубіцца недзе за паваротам. Разам з хвалямі бягуць і думкі. Спачатку нясмелым ручайком выбіраюцца на прастор, каб, асмеліўшыся, хлынуць раптам бурным патокам, закруціцца ў вадаваротах і панесціся ўздоўж берагоў недзе ў невядомае. Вось у тыя вечары і я яе быццам першы раз сапраўды пабачыў. Пабачыў і зразумеў хто яна мне.

З той пары толькі пачаў да яе ўважліва прыглядацца. І з той пары яна мяне паланіла». — «Дзядзенька! Дзядзенька!» — загаманілі дзяўчаты. — «А яна што — нашая, вясковая была?» — «Не вясковая і не гарадская», -- усміхнуўся Рыгор хітра прыжмурыўшы вочы. — «Штораз то ўсё іншая. І штораз прыгажэйшая. Раз уся ў зелень апранутая, сакавітая, кветкамі абсыпаная, ззяе ўсмешкаю, пяе жаваранкам. То ізноў раскінуўшы саламяныя косы, таемна ўздыхае, мо жнівом у

**За што кахаю? чаму пра цябе адно мару? найхарашэйшая мая! казачная! адз ная...**

гарачы дзень зморaная. А то ўся ў золаце, шчокі яблыкамі румяныя, паважнай гаспадыняю хлеб-соль на стол падае. Іншым разам паняю ў белую шубу загорнецца, пуховаю хусткаю закруціцца, серабром мільгаціць. Халодная, недаступная, мо каралева. Бывае вясёлая. Дзявочымі песнямі залівaецца. Гарачая, мо хлеб свежа спечаны. Бывае, што чорнымі хмарамі суму прыслоненая ручайкамі слёз грудзі аблівае, мо маці, якая сыноў сваіх плача. Заўсёды аднак свая, блізкая, родная».

— «Дзядзенька»! — захіхікалі раптам дзяўчаты. — «А цалаваць вы яе часта цалавалі?»

Схілілася пад уплывам успамінаў сівая Рыгорава галава. Памаўчаўшы хвілінку, пачаў ён далей: — «Ці часта цалаваў, пытаецеся? Адзін раз, дзеткі, толькі. Гэта, калі я пасля першай сусветнай вайны з салдатаў дахаты вярнуўся. Прыпаў я да яе тады, памятаю, прагна. Цалаваў яе родную і плакаў, як тое дзіцё — не саромеючыся. Адзін раз толькі цалаваў яе, дзеткі, і да смерці гэты раз памятаць буду». — «Дзедзік! — адазваўся раптам Рыгораў унук Слаўка. — «А біцца вам за яе не прыходзілася? На гэткую ж прыгажуню шмат аматараў быць мусела». — «А гэта ты, пастрэл, добра заўважыў», — засмяяўся чамусьці Рыгор бадзёра трахнуўшы галавою. — «Аматараў да яе то ніколі не бракавала. Ды і спуску, шчыра кажучы, мы ім не давалі. Лупілі так, каб другім адхацелася. О! Паглядзі, якая ў мяне пасля гэтага памятка засталася!» — тут дзядзька Рыгор расшпіліў кашулю і ўсе пабачылі на ягоных грудзях шырокі рубец. — «Гэта мяне ў час другой сусветнай вайны нямецкі вартаўнік штыхам амаль не запароў. Я тады хадзіў у партызанах», — выясніў ён. На хвілінку ўсе прыціхлі. А потым загаманілі. «Дык як жа ж гэта, дзядзенька? — пачалі пытаць. Дык колькі ж ёй лет тады было? Навошта вы за старую біліся?» — «А хто вам казаў, што за старую?» — засмяяўся Рыгор. — «Яна і сёння яшчэ маладая». — «Ой нешта вы тут, дзядзенька, круціце», — зашумелі ўсе ізноў. — «Нешта тут не так. Хто ж яна тады такая? Ці мы яе ведаем?» — «Ой ведаць, дзеткі, добра ведаеце», — паківаў галавою Рыгор. — «Толькі так, як і я калісьці, яшчэ прыглeдзецца да яе па-сапраўднаму і ацаніць яе не паспелі. Гэта ж краіна наша родная. Зямля бацькоўская.

І паверце мне, старому, што калі наогул магчыма на гэтым свеце вечна кахаць каго, дык толькі адну яе, Родную. І ў ёй напэўна не расчаруецеся», — сказаўшы гэта Рыгор устаў і цяжка ступаючы ўвайшоў у хату.

Моладзь моўчкі пачала разыходзіцца. Адзін толькі Слаўка схапіўшы Любу за руку шаптаў ёй: — «Не вер, Любанька, сонейка маё: я і цябе вечна кахаць буду. Вечна. Заўсёды. Моцна, моцна». — «І я цябе», — адказала Люба. Вядома, маладыя. Ды і вясна ж.

Юрка Геніюш

## БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯЎЧЫНА

1.

У купэ ўспамінаюць лета
і рукі грэюць
абы да вясны,
а за акном
лясы,
паляны,
тэлеграфныя стаўбы,
слядоў шматкроп'е на прыстанках,
як быццам ногі
у чаравіках ці валянках
не дасказалі тое,
што сказаць маглі.

2.

— Вы беларуская?
— А што ж такога...
– Прыемна з вамі гаварыць.
— Што вы! Ідзіце з богам!
Аб чым мне з вамі гаварыць...
Я вас і бачу ўпершыню,
І вы — прабачце мне — дзівак
— Дзівак? Хіба таму,
Што чую я трывогу,
што цеплыню гнязда адчуў
і дзікі, недарэчны мой палёт?..
— А вы цікавы,
як кожны беларус...

3.

Снег ляжыць на ёлках блінам,
Цягнік ляціць...
— Мяне завуць Ніна.
— Пятром мяне завіце.
Родам я
З-пад Белавежскай пушчы,
А жыву — не па праву —
У Тлушчы.
Гэта па дарозе
з Беластока ў Варшаву.

Бачыце, я — мастак.
Я рваўся ў сталіцу
і ля сталіцы вось застраг.
Не, не пытайцеся чаму,
Чаму пагнаўся ў горад,
чаму ад ніў уцёк,
ад сцежак Белавежы...

Вось камок
у горле
душыць,
рэжа.

Я вярнуся
неўзабаве
пад радзімыя зоры,
мы з сталетнімі дубамі
зноўку пагаворым
аб дзяцінстве,
аб юнацтве,
як раслі мы
беларускімі сынамі.

Памятаю —
пад восенскім сонцам я марыў не раз,
а восенню травы іржэюць прыгожа,
прыгожа надзвычай у тую пору ў нас,
хоць смутак за нечым крадзецца варожа.
Вёска багатая ў спеласць садоў,
рэчка, гаі, ніткі баб'яга лета,
даль неабсяжная, ключ жураўлёў...
Слоў няма выказаць мне ўсё гэта,
што так моцна любіў я дзіцём
Жыве ва мне...

А хто вы?
Шчасце так рэдка сустрэнеш,
Не абагрэцца,
Не нацешыцца
Ніна, хто вы, Ніна?

У якім горадзе расла гэта кветка?
Якое сонца яе даглядала?
Дождж які мачыў ёй сукенку?

4.

Я еду ў Варшаву.
У нас канікулы цяпер —
Пакінула дзяцей
І футра думаю справіць.

Мая прафесія — у школе,
настаўнічаю ў вёсцы я.
Чаго ж дзяўчыне болей?

У нас вялікая сям'я
была. Пяць сясцёр...
Цяпер яны — гэта лісты.
Адна даўно ў Сыднэі
замужам за гарманістам.
У Таронта за морам.
Марыля. Там і Хвядора.

А мы з Надзейкаю ўдома,
там, дзе радзіліся, жывём.
У нас гміна, крама, школа
І царква з ахрыпшым звонам.

Растуць бярозы каля нашай хаты,
Скварэшнікі на іх і сонца ручайкі.
П'яны плот з дзіравым бокам
І сад ніякі, але свой такі.

Мне горад што? — Я ў ім чужая,
Я не змагла б душою ачуняць.
Мне камень жыць перашкаджае....
А сны пахнуць малачаем,
калі ідзеш на сена спаць.

Усё роднае, цёплае, даношана,
Спакой ікон і прастата як хараство.
І вырастаюць людзі з дна сяла
З душой шырокаю як стол,
З душою моцнаю, як дуба ствол.

5.

Вам цяжка зразумець мяне
Вядома —
Структура, планы, усё вы — іншы свет.
Рафаэля мадонна.
Далікатнейшая тэма ў чысцейшай форме.
Спакойны інтэр'ер.

...калі чорныя хмары
залягуць наўкола
нічога не чуеш не бачыш
і наўпрашчкі бяжыш у творчасць
у сваю бярлогу
у дзікі сад
шукаеш сховішча
і дапамогі —
ляжыць яна капрысам зморана,
усюды макрата,
няма шчырых слоў
няма цёплых рук
і адзіноцтва даядае.

Ах муза, муза, падвяла
мяне ты пад дурнога хату.

Шкада не пройдзеных дарог —
шкада патрачанага часу.

Жыццё абнюхала мяне,
жыццё напалавіну страчана —
не хачу ў кутку сцямнець,
жыць хачу іначай я...

Я трызню — не слухайце мяне...
Мною трасуць дурныя страсці.
Сустрэнеш шчасце
І так лёгка звар'яцець.

6.

Я слухала вас
і мне здаецца
што вы нядрэнны чалавек
вы душу адкрылі
я ўвайшла ў яе
не чуючы трывогі
як у знаёмы агарод
я толькі бачу многа
у ім пустазелля
калі б не пунс дзявочы
я нават зараз падкасаць гатова
край сукенкі
і выпалоць з вас асот?
вадою
мы накормім
сухія груды павыкідаем у Лету бадылі
і зарасадзім
сапраўдныя кветкі
жыццё вас запалоніць
пабачыце —
не трэба так цурацца
таго
што раз бярэм...

7.

Калі б прадоўжыць час і падарожжа
на жыццё забыўшыся, што ёсць вакзал,
чытач даведаўся б, які фінал
на дрэннае нажытага з прыгожым.

Але —
мы ўпэўнены — і з вераю ў людзей —
Пятру не пагражае больш руіна.
Беларуская дзяўчына
чалавеку павіла надзею,
а мастацтва
сонцам надзяліла.

І. ЧЫКВІН

 

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# МУЗЕЙ ВУЧЫЦЬ

**Ад 7-га да 9-га чэрвеня адбудзецца ў Беластоку навуковая сесія аб музеях. Звыш ста вучоных з усяе краіны прыме ў ёй удзел.**
**Карыстаючы з нагоды мы папрасілі дырэктара Акруговага музея мгр ЗОФІЮ САКАЛОЎСКУЮ адказаць на некалькі пытанняў.**

**— Роля музеяў змянілася. Якая яна цяпер?**

— Ад 1945 года польскія музеі парвалі з паняццем музея як складу старых экспанатаў. Музей цяпер — гэта навукова-даследчы і асветны цэнтр. Музей збірае экспанаты і з даўніх часоў, і з сучаснасці. Прыклад — Беластоцкі музей, дзе маем экспанаты па археалогіі, гісторыі, гісторыі беластоцкай вёскі, гісторыі мастацтва і новую гісторыю ў Музеі рэвалюцыйнага руху.
Музеальныя экспанаты з'яўляюцца дапаможнікам для школ пры вывучэнні гісторыі, мовы. Музей цяпер моцна звязаны з жыццём і служыць ён не вузкаму кругу людзей, а ўсім.
**— Многа наведвальнікаў мае наш музей?**
— Бываюць дні, што да дзвюх тысяч асоб. У мінулым годзе музей у Ратушы наведала 50 тысяч асоб і 40 тысяч — Музей рэвалюцыйнага руху.
**— Ці лічыце, што сетка музеяў у ваяводстве дастатковая?**
— Мы чакаем і адабраем грамадскую ініцыятыву ў разбудове гэтай сеткі. Так паўсталі музеі ў Цеханоўцу і ў апошні час адкрыты рэгіянальны беларускі ў Белавежы.
**— Што скажаце аб успомненым музеі ў Белавежы?**
— Ён мае каштоўны збор забыткаў матэрыяльнай культуры вёсак паўднёва-ўсходняй часткі ваяводства. Усё сабрана грамадскім чынам. Мы абяцаем дапамогу пры апрацоўцы і кансервацыі экспанатаў. Музею прыдалося б лепшае памяшканне.
**— Дапамогу ўсіх у збіранні музеальных экспанатаў вы добра бачыце?**
— Лічым у гэтым асабліва на школьную моладзь, якая знаходзіць і прыносіць старыя манеты, часткі старога аружжа ці розныя рэчы і дакументы з апошняй вайны.
**— Што скажаце на тэму скансенаў — музеяў на паветры?**
— Прыдаўся б ваяводскі скансен. Знікаюць саламяныя стрэхі і каштоўныя аб'екты народнага будаўніцтва. Вяжацца гэта аднак з вялікімі коштамі. Мы на гэтую тэму супрацоўнічаем з ваяводскім кансерватарам. Пабачым, што будзе далей.
**— Вучоныя ўдзельнікі беластоцкай сесіі наведаюць нашы музеі. Дзе будуць?**
— Праедзем і агледзім скансен у Навагродзе, музей у Ломжы, Цеханоўцу і абодва ў Белавежы.
**— Дзякую, жадаем паспехаў і добрай пагоды.**

Размову вяла **(вл)**



# ВАЯВОДСТВА

**(Працяг са стар. 2)**

У апошнія гады наступіў пералом у будаўніцтве сіласаў і кішэнні пашы. Калі ў папярэднія гады будавалася па некалькі, то ўжо ў 1964 годзе пабудавана звыш 200 сіласаў, а ў 1965 годзе больш як 500 сіласаў. На жаль, няма яшчэ зразумення адносна патрэбы кішэння. Большая частка сіласаў не выкарыстана.
Добра гаспадарыць, атрымліваць вышэйшы ўраджай — трэба ўмець гэта рабіць. Для павышэння сельскагаспадарчых ведаў існуе агульнае двухгадовае навучанне, якое пачалося восенню 1964 г. У Гайнаўскім павеце яно вялося ў 43 вёсках, у тым ліку ў 36 сельгасгуртках.
Адначасова трэба арганізаваць практыкі для гэтых навучэнцаў у добрых гаспадароў. Не патрэбна ўжо шукаць добрых гаспадароў у Познанскім ваяводстве, а можна іх знайсці ў кожным павеце. Такая месячная практыка дазволіць пазнаёміцца моладзі з добрай формай і вынікамі сельскагаспадарчай прадукцыі і будзе вялікім штуршком маладому чалавеку ў яго будучай працы на ўласнай гаспадарцы.
Урэшце наступная праблема — гэта механізацыя. Пастановы партыі з чэрвеня 1965 года ўказалі на далейшае ўдасканаленне дагэтуляшніх форм і ўвядзенне новых форм канцэнтрацыі трактарных машын. Гайнаўскі павет вызначыў 6 грамадскіх рад да вядзення такой канцэнтрацыі.
Некалькі гурткоў спалучылі свой фонд развіцця сельскай гаспадаркі і супольна яго выкарыстоўвалі. Такія факты памаглі выпрацаваць новыя формы кіравання грамадскай механізацыяй. Паводле пастаноў партыі пачаліся арганізавацца міжгуртковыя машынатрактарныя базы. План арганізацыі такіх баз прадбачвае ў Гайнаўскім павеце арганізаванне іх да 1970 года ў шасці мясцовасцях. У гэтым годзе ў сельскагаспадарчым гуртку Сакі база ўжо сарганізавана. Мае яна 9 трактараў. Да Сакоў прылучылася дзве вёскі: Сухавольцы і Залешаны, супольна выбралі раду карыстальнікаў, якая мае кіраваць правільнай гаспадаркай машын.
Ёсць групы сельскагаспадарчых гурткоў, якія дагэтуль не падня лі механізацыйнай дзейнасці, або маюць толькі конныя сеўнікі, або малацільныя агрэгаты. Апрацаваны план механізацыі зусім не прадбачвае ўводзіць у гэтыя гурткі трактараў. І гэтым гурткам ставіцца задача вясці малую механізацыю і займацца павышэннем метадаў гаспадарання праз супольную пакупку мінеральных угнаенняў, супольны абмен насення, нішчэння пустазелля, кансервацыю меліярацыйных абсталяванняў і г. д.

Інж. А. РАЖКЕВІЧ
загадчык ПЗКР
у Гайнаўцы

# ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР

У днях 14 і 15 мая г.г. у Доме настаўніка ў Гайнаўцы адбыўся чарговы семінар літаб'яднання «Белавежа». У семінары ўдзельнічала большая частка «белавежцаў». Прымалі таксама ўдзел старшыня і сакратар ГП БГКТ тав., тав. Вінцук Склубоўскі і Уладзімір Юзвюк, госцем быў выкладчык Мінскага універсітэта, які зараз вядзе заняткі на беларускай кафедры ў Варшаве, Янка Саланевіч, а таксама гайнаўская моладзь, якая пачала друкаваць свае першыя творы ў «Клубе ліцэіста». На семінары многа часу прысвечана справам арганізацыйнага і выдавецкага характару. Яшчэ раз унесена неабходныя папраўкі да статута літаб'яднання, які неўзабаве надрукуецца.
Сарганізавана аўтарскія сустрэчы, якія члены літаб'яднання правялі ў школах або клуба-кавярнях (так ужо модных цэнтраў культуры на гайнаўскіх вёсках). І так, у барысаўскай школе выступалі Янка Цялушэцкі і Уладзіслаў Дваракоўскі, у вёсцы Крывец — госць з Мінска Янка Саланевіч і А. Барскі, у в. Ласінка — Янка Чыквін і Юрка Генюш, у вёсцы Макаўка выступаў Сымон Раманчук, у клуба-кавярні ў Адрынках — Віктар Швед і Мікола Лобач. Аўтарскія вечары прайшлі паспяхова. Сведчыць хаця б аб гэтым сардэчная атмасфера, у якой праводзіліся такія мерапрыемствы, букеты кветак і шчырыя пажаданні далейшых поспехаў у працы на літаратурнай ніве накіраваныя да аўтараў.
Калі вярталіся мы ўжо апоўначы ў Гайнаўку, наша «Ныса» была ўквечана букетамі гваздзікаў, цюльпанаў і др. вясеннімі кветкамі. Усе ад шчырых прыхільнікаў паэтычнага слова нашага роднага, беларускага. Гэта быў асаблівы вечар, вечар — маніфестацыя пісанага беларускага слова. Новыя мастацкія працы выстаўлялі Віктар Кабац і Анатоль Корзун. Усе яны карысталіся прыхільнай ацэнкай.
На семінар аўтары прывезлі запас вершаў і апавяданняў. Свае новыя вершы чыталі паэты Янка Чыквін і Віктар Швед, а апавяданні празаікі Янка Цялушэцкі і Юрка Геніюш. Многа ўвагі ацэнцы твораў членаў літаб'яднання прысвяціў загранічны госць Янка Саланевіч.
У выніку выбараў новага праўлення літаб'яднання старшынёю выбрана Алеся Барскага, а членамі: Янку Чыквіна, Віктара Шведа, Віктара Кабаца і Юрку Геніюша.
Пасля семінара ў Доме настаўніка з нагоды Дня дзеяча культуры была наладжана мастацкая вечарына, на якую запрасілі ўсіх «белавежцаў».

Я. ЦЯЛУШЭЦКІ

# ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — „НІВА" АДКАЗВАЕ

*Пытанне:*
*Я жыву на вёсцы. Маю сваю гаспадарку і будынкі. У гэтай жа вёсцы я атрымаў у спадчыне па бацьку дом, хлеў і агарод. Гэтыя будынкі з агародам я аддаў у найм за аплатай 300 зл. у месяц. Наймальнік плаціў арэндную плату праз некалькі месяцаў, а пасля самавольна абнізіў да 100 зл. у месяц. Ён гаворыць, што і так плаціць замнога, бо мае права плаціць чынш у размерах устаноўленых праз дзяржаву. Ці магу я дамагацца заплаты, якая ўстаноўлена нашай умовай?*
*Адказ:*
*Закон аб найме памяшканняў прадбачыць стаўкі за найм памяшканняў. Уласнік памяшкання не можа патрабаваць большага чыншу, чым прадугледжаны законам. Аднак гэтыя абмежаванні не абавязваюць на вёсцы. Яны не абавязваюць таксама і ў горадзе ў дамах вылучаных з-пад публічнай гаспадаркі памяшканнямі. У гэтых выпадках высокасць чыншу бакі ўстанаўляюць умовай. Паколькі ў вашым выпадку вы ўстанавілі чынш 300 зл. у месяц, маеце права дамагацца заплаты гэтага чыншу.*

# НІГІЛІСТЫЧНЫЯ ЎРАЖАННІ

**Прачытаўшы артыкул С. Яновіча, надрукаваны ў 16 нумары «Нівы» ад 17. IV. 1966 года пад загалоўкам «Мае ўражанні», я адчуў патрэбу запратэставаць супраць такой трактоўкі п'есы Барскага. Аўтар артыкула сам прызнаецца, што ён не аглядаў гэтага твора на сцэне і толькі прачытаў п'есу «Гарадскія госці» ў альманаху. Калі ён не адчуваў, не перажываў гэтай п'есы разам з сотнямі гледачоў, тады якім чынам выступае ён з ацэнкай гэтай п'есы, яе багацця народнай думкі, якую ветліва павіталі сотні гледачоў у беларускім і мешаным асяроддзі. Мяне вельмі раздражняе сцверджанне аўтара: «...цяжка ўявіць сабе яе (гэта значыць п'есу «Гарадскія госці») на вясковай сцэне, перад нашай вясковай публікай, якая неяк у крыві мае бацыл нігілізму да беларускасці».**
**Фактам ёсць, што «бацыл нігілізму да беларускасці», паяўляецца не на вёсцы, а ў горадзе, дзе пэўная частка нашай, народнай інтэлігенцыі, да якой трэба залічыць перад усім майго аўтара, цураецца ўсяго таго, што роднае, дарагое для кожнай нацыянальнасці. Вось якраз п'еса А. Барскага «Гарадскія госці» асмешвае тых усіх «нігілістаў», якія невядома з якіх прычын зненавідзілі ўсё, што роднае, дарагое. Роля Вёлеты — Валі і Кастуся ў гэтай п'есе адзначаецца не толькі асмяшаннем перад публікай іх паступкаў, але і пакорай таго, што было дрэнна зразумела ў іх жыцці.**
**Хачу прывесці некалькі прыкладаў, як гледачы ацанілі п'есу «Гарадскія госці». Мілейчыцкі драмгурток апрацаваў п'есу А. Барскага «Гарадскія госці» і даў шмат выступленняў. 5. II. 1966 г. два выступленні, адно для школьнікаў, другое для дарослых, на якіх прысутнічала 238 гледачоў: 90 дзяцей і 148 дарослых. З цэлай павагай сцвярджаю, што змест п'есы ад самага пачатку І-га акта да канца другога акта гледачы ветліва віталі.**
**Былы дзеяч Грамады Андрэй Міхноўскі пасля канцэрта сказаў: «Ну і п'еса, якой дагэтуль не было на сцэне. Гэта не толькі камедыя, але сапраўдная гісторыя сучаснага жыцця беларускага насельніцтва. Амаль кожны гледач знаходзіў сам сябе ў пэўных дыялогах п'есы».**
**10. II. 1966 г. гэту п'есу выставілі ў Дашах і Кляшчэлях, дзе прысутнічала каля 200 асоб. Як у Мілейчыцах так і ў асадзе Кляшчэлі гледачы вельмі добра ацанілі змест і выкананне п'есы. Калі заслона апошняй з'явы закрыла сцэну, гледачы бурнымі воплескамі выклікалі мастакоў, а калі кіраўнік калектыву аб'явіў, што канец п'есы, з залы пачуліся галасы «нам хацелася б яшчэ некалькі гадзін сядзець і аглядаць такую прыгожую камедыю».**
**15. II. 1966 года наш калектыў выступіў з гэтай п'есай на павятовым аглядзе ў Літвінавічах, дзе заняў І месца. Пасля заканчэння спектакля мне прышлося пачуць ацэнку п'есы праз літвінавіцкіх сялян: «гэта п'еса смела люструе сапраўднае жыццё беларускай вёскі». Другі селянін кажа: «Каб гэтая Вёлета была сапраўднай, а не артысткай, я б яе разарваў на кавалачкі». Вось з якім глыбокім перажываннем, патрыятызмам, а не «нігілізмам», прымае вясковая публіка п'есу А. Барскага — вялікага песняра свайго народа.**
**У сувязі з вялікім зацікаўленнем п'есай А. Барскага «Гарадскія госці» наш калектыў трэці раз выступіў у Мілейчыцах 19. II. 1966 года, на акадэміі прысвечанай XX-цігоддзю ОРМО, дзе вялікая зала мілейчыцкай святліцы была перапоўнена гледачамі, а было іх каля 500 асоб. Як першае выступленне так і трэцяе было ветліва прынята публікай, якая таксама як і раней моцна перажывала кожную сцэну, аб чым сведчылі частыя ўздымы бурных воплескаў.**
**26. II. 1966 г. наш калектыў выступіў з гэтай п'есай на V-тым з'ездзе БГКТ у Беластоку, дзе дэлегаты і запрошаныя госці вельмі прыхільна ацанілі глыбокі сэнс п'есы. Мы вельмі хваляваліся тым, што нам прышлося на юбілейным з'ездзе выступіць на сцэне БГКТ, але яшчэ больш хваляваліся ветлівым прыёмам усіх прысутных дэлегатаў і гасцей, якія не меншую долю воплескаў, як на вясковых спектаклях, прызначылі акцёрам, а перад усім смеламу прадстаўленню сучаснага жыцця нашай вёскі.**
**Наш дарагі госць — старшыня Украінскага таварыства, які аглядаў нашу п'есу «Гарадскія госці», на другі дзень работы з'езда забіраючы голас у дыскусіі высока ацаніў смелую і рэалістычную тэматыку п'есы А. Барскага. Ён сказаў, што: «мы, украінцы, дагэтуль не маем такой п'есы, а хацелі б яе мець як найхутчэй». Вось як у сапраўднасці ацэньваецца п'еса А. Барскага «Гарадскія госці». Тут выказалася ацэнка не толькі вясковай публікі, але і гарадской публікі — нашай інтэлігенцыі, якая прысутнічала на з'ездзе.**
**У будучыні раіў бы майму аўтару «Маіх уражанняў» быць разам з публікай, а потым выступаць ад яе імя на старонках «Нівы».**

**СЯРГЕЙ КРЭЙЗА**
Старшыня П. А. БГКТ
у Мілейчыцах



 

**У ТЭАТРЫ ІМЯ А. ВЯНГЕРКІ**



На здымку: Галіна Пшыбыльская і Мечыслаў Тарнаўскі ў ролі інспектара паліцыі.

# «ФІЗІКІ»

Трагічная камедыя «Фізікі» швейцарскага 45-гадовага аўтара Фрыдрыха Дзюрэнмата пераможна прайшла найбольшыя сцэны Еўропы. Парушыла да корняў грамадскую апінію. У Польшчы першым драматычны тэатр у Варшаве паставіў яе, а ў маі таксама Беластоцкі тэатр імя Вянгеркі.

«Фізікі» нялёгкая п'еса. І для тэатру і для публікі. І тут першая неспадзеўка: такіх браў я даўно не бачыла ў Беластоцкім тэатры. Людзі не хацелі выходзіць з залы. Заслуга вялікая і самой п'есы, і беластоцкіх акцёраў, якія ў «Фізіках» падняліся на вяршыню сваіх умеласцей.

Прадстаўляю чытачам фота з Галінай Пшыбыльскай у ролі галоўнага лекара і ўласніка дома вар'ятаў, у якім дзеюцца незвычайныя рэчы.

Увесь твор Дзюрэнмата прасякнуты вялікай сілай супраць знішчэння, вайны.

Вось кароткі яго змест.

У доме вар'ятаў жыве трох вар'ятаў - фізікаў: адзін падаецца за Нютона другі за Эйнштэйна, трэці Мебюс сапраўды з'яўляецца фізікам. Яго вар'яцтва заключаецца ў тым, што цар Саламон паказваецца яму і адкрывае самыя вялікія тайны навукі.

Чаргова — Нютон, Эйнштэйн і ўрэшце Мебюс душаць медсёстраў, якія іх пільнуюць і... кахаюць. Паліцыя не можа арыштаваць вар'ятаў за іх несвядомыя чыны. І... новая неспадзеўка — ніводзін з фізікаў не з'яўляецца вар'ятам. Нютон і Эйнштэйн — гэта агенты, кожны сваёй імперыі. Яны забраліся ў дом вар'ятаў і ў ролі вар'ятаў, каб ад Мебюса здабыць яго навуковыя вынаходствы, пры дапамозе якіх змогуць нішчыць. Вынаходства Мебюса пазваляе запанаваць над светам, але пагражае таксама канцом яго. Мебюс ведаў аб гэтым і, каб не даць у рукі людзям безадказным страшнага аружжа, «стаецца вар'ятам».

Адзіным пераможцам аказваецца жанчына-лекар Матыльда Фон Цан, якая адкрывае (даўно падазравала) агентаў і здабывае дакументы Мебюса.

Тры фізікі — людзі нармальныя ведаюць, што страшнае аружжа папала ў рукі звар'яцелай жанчыны. (вл)




Сённяшні наш агляд **прысвячаем Гайнаўскаму павету.**

**УЗНАГАРОДЫ**

Сюды з'ехаліся дзеячы культуры з павета. Было іх свята. Ян Харшляк — вядомы неспакойны з Кляшчэль атрымаў адзнаку заслужанага дзеяча культуры. — Генрыка Кульчакевіч з Чыжоў, Аляксей Грыгарук з Дубін і Расціслаў Місеюк з Кляшчэль — ваяводскія ўзнагароды. 27 асаб атрымала павятовыя ўзнагароды. Трох настаўнікаў, якія выступаюць у тэатральным гуртку Дома настаўніка, атрымалі ад настаўніцкіх улад узнагароду — экскурсію ў Чэхаславакію і Венгрыю. Гэта: Ірэна Кастэра, Іван Кабац, Уладзімір Мусько. Рада закладова Гайнаўскага тартака прызнала таксама 8 узнагарод.

**СЕСІІ КУЛЬТУРЫ**

Штораз шырэй грамадскія рады нарадовыя Гайнаўскага павета займаюцца культурай. У маі 4 ГРН спецыяльныя сесіі прысвяцілі культурнай дзейнасці. Яны называюцца: Белавежа, Клейнікі, Старое Ляўкова, Дубічы Царкоўныя. Белавежа і Дубічы Царкоўныя — гэта вядомыя даўно цэнтры культуры. Цешыць старт Ляўкова і Клейнік.

**ТЭЛЕВІЗАРЫ**

Гайнаўскі павет мае 800 тэлевізараў, якія ў клубах, святліцах і школах служаць усім. Пануе тут лозунг: у кожнай вёсцы тэлевізар пад супольнай апекай.

**КНІЖКА**

У павеце 11 300 чытачоў. Кожны пяты жыхар павета з'яўляецца чытачом публічнай бібліятэкі. У першым квартале 1966 года чытачы прачыталі на 1 500 кніжак больш, чым у апошнім квартале старога года.

**ВЫЙГРАЛІ**

Люба Базылюк родам з Малінік, працуе ў ГС Кляшчэлі, заняла першае месца ў павятовых аглядах у конкурсе «Здароўе і культура».

Др Аляксандр Малец з Кляшчэль у рамах гэтага конкурсу арганізаваў 3 школы здароўя, дзе навучалася ў сярэднім па 30 жанчын у кожнай. Школы доктара былі ў Дабрыводзе, Дашах і Кляшчэлях.

# ЛЁС АБСАЛЬВЕНТАЎ СПР

(Працяг са стар. 1)

шую як грошы — звязаць вучняў чулліва з гуртком.

Настаўнікі пачалі ад партыйнай арганізацыі, дзе запрапанавалі супрацоўніцтва школы з сельгасгуртком. Затым з гэтым выступілі на агульным сходзе гуртка. У выніку чаго быў падпісаны дагавор аб узаемнай дапамозе. **Гурток абавязаўся** школе дапамагаць у загаспадараванні школьнага ўчастка, рабіць даступнымі машыны, апараты да хімічнай барацьбы з з..лем, на ўрокі, або некаторыя апараты гурток будзе пазычаць як візуальныя дапаможнікі на занятках. **Вучні СПР будуць** працаваць як памочнікі пры машынах у часе жніва. Школа — абавязалася таксама праводзіць кансервацыю машын на зіму, памагаць пры пабудове сіласаў, раскідаць поўхавыя купы на палях гуртка, арганізаваць урачыстасці, даваць мастацкую частку на агульныя сходы гуртка і т.п. Найбольш балючай справаю школы з'яўляецца памяшканне СПР, якое змяшчаецца ў асобным будынку. Але што ж, да сённяшняга дня большую яго частку займае дзве сям'і абсалютна не звязаных са школаю. ГРН штораз абяцае іх перакватэраваць і з года ў год перакладае абяцанкі. А тым часам навуковыя дапаможнікі псуюцца ў складах, а крэслы дык устрагаюць у гнілую падлогу. А можа павятовая рада ў Бельску дапаможа?

— Аб дасягненнях СПР у Орлі не стану гаварыць — сцвярджае падінспектар Аддзела асветы мгр інж. Ліза Вжэцёнка. — Вы былі там і самі маглі пераканацца. Хачу толькі дадаць, што дасягненні школы непасрэдна звязаны і з'яўляюцца заслугай Яўгена Леўчука, настаўніка спецыялістычных прадметаў і Аляксея Карпюка — кіраўніка СПР. Іменна яны ва ўсіх справах чуюцца поўнасцю адказнымі і пачуццёва звязанымі са школаю і адказнасцю за вынікі навучання. Нароўні з успамянутымі са школаю звязаны ўсе настаўнікі пачатковай школы.

**Аляксей Карпюк**



Так трэба правільна даіць карову.



Уласна выкананыя навучальныя дапаможнікі.

# ВОСЬ КАМЕДЫЯ!

**Алесь Барскі ў альманаху «Белавежа» дэбютаваў як драматург «камедыяй з вясковага жыцця» — як сам аўтар піша пад загалоўкам. Гэты дэбют выклікае ва мне вельмі супярэчлівыя думкі.**

**Я заўсёды адносіўся да Алеся з вялікай пашанай за яго грунтоўныя веды, начытанасць, глыбокую інтэлігенцыю і тонкае разуменне літаратурнага слова, высока цаню яго творчы талент.**

**І раптам «Гарадскія госці»! Сапраўды, «камедыя» з вясковага жыцця на Беласточчыне, бо тут — недзе між Бельскам і Гайнаўкай — адбываецца дзеянне.**

**Драматычны твор мае тую асаблівасць, што аўтар у ім не можа нічога сказаць непасрэдна ад сябе. Усе свае думкі выказвае за пасрэдніцтвам асоб герояў, якіх стварае і паклікае да самастойнага жыцця.**

**Барскаму захацелася ў лёс і ў вусны сваіх дзесяці дзеючых асоб увапхнуць важную для беларускай нацыянальнай меншасці праблему ўласнага быту, асіміляцыі і суадносін з дамінуючай польскай нацыянальнасцю. Усё гэта падмацаваў ён яшчэ адпаведнымі інфармацыямі, аб актыўнай дзейнасці ЗМВ, БГКТ, сельскагаспадарчых гурткоў. (Толькі ПГР-ам і спулдзельням прадукцыйным не хапіла месца). Сярод праблем і спраў, бы апостал, узвышаецца беларускі паэт — вельмі разумны магістр гісторыі, блукаецца інструктар БГКТ — спецыяліст ад пабудовы дарог грамадскім чынам і журналіст «Нівы» — з'яўляецца як чарадзей або анёл ахоўнік.**

**А ўсё разам паводле замыслу аўтара мела скласці п'есу на суперсучасную тэму, мела аддаць атмасферу цяперашняй вёскі. Намер высакародны і спроба славалюбіва, але вынік... Барскі абдарыў нас распісаным на 10 галасоў двухгадзінным дакладам аб справах агульнавядомых. Даклад гэты толькі часам ажыўляе нейкім выбрыкам малы жартаўнік Вася, бо ён у п'есе найбольш падобны на чалавека. Можа яшчэ яго бацька Тамаш, многа менш ужо Марыся, Тамашова жонка. А ўсе другія выклікаюць уражанне нейкіх механічных робатаў, якія паўтараюць толькі тое, што аўтар запісаў ім у праграме.**

**Цэнтральнай асобай п'есы, па-мойму, з'яўляецца Вёлета - Валя. І яе малюнак выклікае найбольш засцярог.**

**Барскі назваў сваю п'есу камедыяй. Камедыя можа паказваць рэчаіснасць як крывое люстэрка. Аднак, каб не затраціць сэнсу, неабходна захаваць адпаведную меру. Алесь моцна перагнуў палку.**

**У яго Вёлета сама не любіць беларускай мовы і ёю не карыстаецца ды яшчэ пацяшае цешчу, што па-польску вельмі ж лёгка можна навучыцца. Гэта ж Вёлета ў вясковай хаце бачыць блохі бы фокі, чуе смурод і саромiцца сялянскага «прымітыву», адначасова дарыць цешчы старую хустку і прывозіць ёй да мыцця сваю брудную бялізну. Яна курыць папяросы і адным залпам выпівае кілішак за кілішкам. Ахвотна разваліла б усе царквы, пагнаўшы беларусаў у касцёл, а беларускіх паэтаў і інструктараў к чорту, бо яны, паводле яе, сеюць нацыяналізм. Ды на дабавак Вёлета — гэта не Вёлета, а Валя, дачка царкоўнага старасты, дзяўчына, якая два гады была царкоўнай харысткай. Усё ў яе, бы сякерай адрубаў.**

**Алесь, апамятайся! Ці не замнога гэтага ўсяго на адну асобу?! У сэрцы Вёлеты - Валі не засталося ані кавалачка месца на чалавечыя хістанні, няўпэўненасць і дзявочую сардэчнасць.**

**Адкуль Ты ўзяў такога звярка?**

**Разглядаючы ў п'есе з усіх бакоў адмоўныя рысы характару Вёлеты, разам з аўтарам прапускаем між пальцаў асноўную, па-мойму, праблему, вакол якой не зашкодзіла б абаснаваць драматычную інтрыгу. Мы зусім не ведаем, якія фактары прымусілі дачку царкоўнага старасты прыкідвацца заўзятай і дурной палячкай ды фанатычнай каталічкай. Чалавек не машына, у ім рычагом не зменіш павароту псіхічных механізмаў — тым больш, калі гэта дзеецца ў сталым узросце. Падобныя выпадкі здараюцца, але заўсёды ім спадарожнічаюць акрэсленыя прычыны. Барскаму выгадней было задаволіцца тым, аб чым часам на вёсцы кума з кумою пабалбочуць.**

**З тэксту вынікае, што Кастусь — чалавек вышэйшай адукацыі. Вёлету ўзяў ён за жонку цалкам свядома, ведаючы пра яе будучыню. І Барскі кажа нам верыць, што гэты інжынер - аграном нават у лісце не напісаў бацькам, што жэніцца. Ледзь паспеў прыгарнуць дыплом, а ўжо цягне сваю Вёлету ў бацькоўскую хату, а тут прымаюць іх быццам вярталіся яны з вянцу. І сын маўчыць. Гэты ж сам інжынер - аграном, за навуку якога бацькі дорага плацілі, адымаючы сабе ад губ — прыехаў толькі таму, каб вырваць ад бацькі яшчэ 15 тысяч злотых.**

**Алесь прызнае толькі два колеры: чорны і ружовы. Другіх замалёвак у яго камедыі няма. Таму «Гарадскія госці» мінаюцца з нашай рэчаіснасцю. Найвышэй дзе-нідзе вылоўліваюць далёкі яе водгукі. На дзіва лёгкай рукой аўтар пусціў у свет гэтае неабцёсанае дзіця, мала дбаючы пра яго далейшае жыццё.**

**Адна, чыста фармальнага характару, прыкмета камедыі заслугоўвае на ўвагу і пахвалу. У першай з'яве другога акта ён рассаджвае акцёраў сярод гледачоў. Пры добрай апрацоўцы сцэнічнага твора можа даць гэта дасканалы эфект. Але гэтым псеўдафіласофскіх і палітычна-грамадскіх абмяркоўвак Алеся Барскага да жыцця, на жаль, не наблізіш.**

**В. РУДЧЫК**

 



**На здымку: «Мі-10» над Амстэрдамам з амерыканскім бульдозерам пад калёсамі.**

**ЦУДЫ НАШАГА ВЕКУ**

# ПАДНЕБНЫЯ ГІГАНТЫ

Летам мінулага года на парыжскім аэрадроме Ле Буржэ была адкрыта міжнародная выстаўка навейшых лятаючых апаратаў. Сотні журналістаў і фотарэпарцёраў у сваіх справаздачах з захапленнем пісалі пра савецкія верталёты сям'і «Мі». Пасыпаліся заказы, але заходнееўрапейскія купцы патрабавалі прадэманстраваць іх у рабоце. І вось «Мі-6» і «Мі-10» знайшліся ў нідэрляндскім горадзе Амстэрдам. Аэрадром знаходзіцца тут усяго 18 км ад горада. Людзі гурбой прыязджалі глядзець рускія машыны. З'явіліся ў аэрапорце галоўныя інжынеры і канструктары самалётнай фірмы «Фоккер».

«Мі-6» правёў некалькі палётаў над Амстэрдамам. За кожным разам забіраў да сотні пасажыраў.

«Мі-10» рашыў прадэманстраваць сваю сілу. Дзеля гэтага пастанавілі пракатаць пад небам аграмадны амерыканскі бульдозер. І тут здарылася камічная нечаканасць. Амерыканскага бульдозера ніяк не маглі запаліць.

— Ён хіба баіцца рускага верталёта, — жартавалі прысутныя. Нарэшце бульдозера неяк запалілі і ён цяжка ўкаціўся на грузавую пляцоўку верталёта. Дзесятка падняла яго бы муху без ніякага напружання і лёгка паплыла над горадам.

Калі палёты над Амстэрдамам былі закончаны, шэф-пілот авіяцыйнай кампаніі КЛМ пан Ван дэр Хартэ доўга цісну́ў рукі савецкім лётчыкам, з захапленнем адзываючыся аб дасканаласці паднебных гігантаў.

«Шасцёрка» адпраўлялася ў Ротэрдам.

— Я бы ахвотна з вамі паляцеў, — сказаў пан Франкэ — эксперт-пілот галандскага Міністэрства цывільнай авіяцыі. — Толькі вось перашкода, — і ён рукой паказаў сваю аўтамашыну. — «Сітроэна» ж не пакіну.

— Справімся з гэтай перашкодай, — весела заявіў камандзір рускага экіпажа і выдаў кароткі загад. Тут жа адчыніліся заднія сценкі «Мі-6».

— Уязджайце, калі ласка, сваім «Сітроэнам», — сказаў эксперту гэты ж пілот.

Галандскі эксперт не здзіўляўся. Ён жа сам сядзеў за рулём «шасцёркі». Завёў свой самаход і спраўна схаваўся ў трыбуху машыны.

Абодва верталёты адправіліся ў Ротэрдам, а адтуль — у Бельгію, Францыю і Швейцарыю. На шляху рускія верталёты гасілі аграмадныя пажары ў лясах пад Марсіліяй і Тулонам, ды перавозілі вялікія грузы над швейцарскімі і аўстрыйскімі Альпамі.

**Нейтрына**

# ДАЎНІЯ СУДЫ

Толькі багатыя гарады маглі дазволіць сабе на такі камфорт, каб мець суддзяў, якія ўмеюць чытаць. У малых мястэчках і паселішчах былі суды, якія складаліся з людзей непісьменных, для якіх найбольшым аўтарытэтам быў мясцовы пісар — бакалаўр або арганіст ці царкоўны псаломшчык. Такі суд сабраўшыся для разгляду нейкай справы здорава папіваў віно і ўголас успамінаў розныя справядлівыя кары, і разважаў, якую з тых кар выбраць. Здаралася, што пасля некалькіх гадзін такога суда чалавека прыгаворвалі на смерць. Часта засуджвалі на смерць толькі таму, што ў мястэчку не было турмы і не было дзе трымаць абвінавачанага чалавека. Карыстаць з турмы ў суседнім горадзе можна было за аплатаю і местачковая ўлада не хацела траціць публічныя грошы на такую аплату.

Вядома, не было пэўнасці ці абвінавачаны сапраўды ёсць вінаваты. Трэба было, каб ён прызнаўся да віны. Таму прыдумана страшэнныя катаванні, ад якіх нават невінаватыя прызнаваліся да ўсяго.

У адным мястэчку слёсар забіў карчмара. Усе гэта бачылі, і слёсар сам прызнаваўся да гэтага забойства. Але гэты слёсар быў вельмі добрым спецыялістам і другога такога слёсара ў мястэчку не было. Калі павесіць слёсара, дык прышлося б з рознымі слёсарскімі работамі ездзіць у далёкі горад. Суд доўга піў віно і думаў, ці засудзіць слёсара, ці ўвогуле не судзіць яго? Аж арганіст прыдумаў выйсце: у мястэчку было двух кавалёў. Хто ведае, ці адзін з іх не мог таксама калі-небудзь забіць карчмара. Не забіў, але мог бы забіць! Суд агарнула радасць. Зараз жа арыштавалі аднаго з двух кавалёў і засудзілі яго на смерць. А слёсара выпусцілі на волю. Ад таго часу відаць і павялася пагаворка: «слёсар забіў, а каваля павесілі»...

Цяпер крыху аб турмах. Шэфам турмы быў кат, званы «майстрам». Ён пры дапамозе сваіх памочнікаў прыкоўваў арыштаванага ланцугамі да сцяны або прывязваў яго за рукі і ногі да драўлянага крыжа. Няшчасны арыштант быў бязрадны перад рознымі пацукамі і іншай поскуддзю, ад якой аж кішэлі турэмныя падзямеллі.

Найчасцей катавалі такім спосабам: пальцы на руках прышрубоўвалі або тонкаю вяроўкаю звязвалі плечы так, што вяроўка ўрэзвалася ў цела аж да касцей. Часта рабілася расцягванне на драбіне або абуванне ў «іспанскія боты» — боты з жалеза, з цвікамі ўсярэдзіне.

Кат часта быў называны «майстрам святой справядлівасці» і быў даволі адукаваным чалавекам. Перад усім, умеў пісаць і чытаць. Гэта патрэбна было кату, каб мог прачытаць публічна прысуд і рабіць пратаколы ў час следства. Кандыдатам на ката мог быць толькі той, які меў рэкамендацыі прынамсі ад двух паважных катаў. Затым праходзіў практыку, як бы чаляднiцкі стаж. Пасля некалькіх год такой практыкі здаваў экзамен перад сваім катам-майстрам. Калі экзамен праходзіў добра, кандыдат атрымоўваў як бы дыплом ката.

Кату трэба было добра плаціць і не кожны горад мог дазволіць сабе на такую выгоду мець уласнага ката, разам з цэлаю світаю яго памочнікаў, вучняў і т. п. Часта гарады мелі аднаго ката або тварылі нешта накшталт катаўскіх спулдзельняў.

У 1776 годзе на польскіх землях, у Дарухаве, здарылася найбольш панурае следства. Аднойчы жонка мясцовага пана Стакоўскага сцвердзіла, што на яе галаве расце каўтун. Знахарка сказала ёй, што яе зачаравалі дарухаўскія чараўніцы. Стакоўскі разам са сваімі падпанкамі вырушыў у Дарухава і схапіў там чатырнаццаць перапалоханых кабет. Катавалі кабет цэлы дзень, тры жанчыны памерла ў час «следства», рэшту спалена на вялізным кастры. Гэтае «дарухаўскае следства» выклікала абурэнне ва ўсёй Польшчы.

Польскі сейм ухваліў пастанову, якая забараніла катаваць у час следства. Сейм забараніў таксама судзіць на смерць за чары. (а-ся)



**«Іспанскія боты», ад якіх нават невінаватыя прызнаваліся да віны.**



**Тапор ката.**



**Вал з цвікамі, якім «гладзілі» арыштанта. Гэта было яшчэ даволі лёгкае катаванне.**

**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК**

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**З-пад Беластока прыкаціў сувязны.**

**— Тадэк! — рэкамендуецца мне хілы хлапец. — Вайцяхоўскі просіць быць вечарам у яго.**

**Імя сувязнога напомніла, што там, адкуль ён прыйшоў, па вёсках жывуць пераважна палякі.**

**Сядаем з хлопцам на веласіпеды і — у дарогу!**

**Камбрыга застаём у зямлянцы. Разам з ім — два незнаёмыя ў цывільным. Тут жа разведчыкі прышываюць белыя каўнерыкі, чысцяць вопратку.**

**— З ЦК! — шэпча начальнік разведкі Міцька Табуноў.**

**І сам бачу, што людзі не звычайныя. У аднаго — ордэн Леніна, абодва з Вайцяхоўскім на ты; побач з імі камбрыг здаецца нейкім нязначным, нават бы меншы ростам...**

**— Нарада пераносіцца, — паведамляе далей Міцька. — Учора зайшлі ў вёску за парсюком, а палякі ранілі дваіх нашых. Будзем уступаць у перагаворы з АК. Цябе бяром за перакладчыка. Загад камбрыга: форма дыпламатычная — белыя кашулі, каўнерыкі, усім наглянцаваць боты, пагаліцца...**

**— У мяне яшчэ нічога няма! — хапаюся за падбародак. — Ён любіць, каб усё было на бляск! Бяры маю брытву... Тутэйшыя вёскі — пад уплывам Арміі Краёвай. Кіраўніцтва яе знаходзіцца ў Лондане. Адным словам, тэрыторыя нашымі партызанамі яшчэ не асвоена.**

**Ноччу вырушаем у паход. Чужыя людзі, незнаёмыя мясціны, адчуваю сябе ніякавата.**

**Ля Зялёнай натыкаемся на засаду. У момант залягаем, даём чэргі з трыццаці аўтаматаў: адну! другую! трэцюю! Немцы з паліцаямі ўжо не рады, што звязаліся з намі, адразу моўкнуць і разбягаюцца, — у цемры заміраe хуткі тупат іх ботаў.**

**Пасля сутычкі мы нават не збочваем з дарогі, моўчкі крочым ля хутараў далей. Крочу я, успамінаю бой і радуюся, што і ў мяне выпрацавалася імгненная рэакцыя. Яшчэ добра не скеміў, адкуль страляюць, як мой аўтамат ужо застрачыў у патрэбным кірунку. От бы выпрабіць у сваіх людзей такую рэакцыю!..**

**Колькі давядзецца жыць, а на сумленні буду мець трагедыю роду Храноўскіх. Шуркаў бацька загінуў у партызанах яшчэ ў першыя дні вайны. Быў сувязным, немцы ўваліліся ў вёску на веласіпедах, узялі яго і пад Гарадком расстралялі. Брат Міша, партызан атрада «Бацькі», загінуў у баі з жандарамі ў Каралёўскім лесе. Шурка застаўся апошнім у маці. Камандзіры атрадаў наўмысна яго не бралі з-за старой. Мяне ўпрасіў не так ён, як Люба і Алёшка, яны таксама з Шуркавай вёскі, з Дзернякова. Хлопец пабыў у атрадзе ўсяго два месяцы...**

**Меў бы атрад хоць крыху такой выпраўкі — і гэтага не здарылася б.**

**А мае паводзіны з Любай? Вайцяхоўскі трымаўся правіла: не браць у атрады дзяўчат, асабліва прыгожых. Я правіла нарушыў...**

**Сорам, чым мы ўсе займаліся апошнія тыдні ў Каралёўскім лесе!.. Вярнуся да сваіх, пачнём усё нанова. Папрактыкуемся цэлым атрадам даваць адпор пры засадах, толькі б паспець да злучэння з арміяй.**

**Парадокс, мне ўжо хочацца, каб нашы войскі не спяшаліся!**

**Пад Двожыскам кватаруецца адзінка польскіх партызан. Вакол іх — свае хутары, варты палякі не выстаўляюць. Раніцой Вайцяхоўскі пакідае на ўзгорку разведчыкаў, ідзе са мной да вялізнага, пад навесам, вогнішча.**

**Ля агню — паўсотні вясковых юнакоў у канфедэратках. У козлах — вінтоўкі і аўтаматы ўсіх сістэм Еўропы.**

**У цэнтры кампаніі — хударлявы інтэлігент з пшанічнымі валасамі. На каўняры яго афіцэрскага фрэнча — сярэбраныя зігзагі. Вайцяхоўскі яшчэ ўчора іх папярэдзіў, што прыйдзе на перагаворы, дзеля псіхалагічнага эфекту тэрміну не вызначыў. Здзіўленыя палякі ўзнімаюць на нас вочы.**

**— Дзень добры, панове, я — капітан Чырвонай Арміі Вайцяхоўскі!**

**На гэтым камбрыг вычэрпвае веданне польскай мовы. — З кім маю гонар размаўляць? — перакладаю яго словы. Афіцэр нацягвае канфедэратку з арлом, усхопліваецца і аказваецца такім жа доўгім, як і Вайцяхоўскі. Камандзіры адзін аднаго секунду разглядаюць.**

**Пад расшпіленай дэсантнай курткай камбрыга гараць ордэны. Такое ўражанне, быццам зіхацяць яны на маіх грудзях. Польскі афіцэр затрымлівае позірк на іх, на маўзеры ў драўлянай кабуры, абцягвае фрэнч, прыкладае два пальцы да казырка:**

**— Паручнік Вільк! Вітаю вас, пане капітане!**

**— Мне вельмі прыемна вітаць і вас!**

**— З прыемнасцю!**

**Паціскаюць адзін аднаму рукі.**

**— Я тут буду дзейнічаць! — катэгарычна аб'яўляе камбрыг. — Мяне не цікавіць ваша палітычная платформа. Вы ранілі дваіх нашых байцоў!**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### САМАДЗЕЙНАСЦЬ І СПАТКАННІ

Многа вёсак зайздросціць вёсцы Крывой, яе разбудове і культурнаму жыццю. Моладзь актыўна працуе і развівае культурнае жыццё. Працуе яна ў арганізацыях БГКТ, ЗМВ, ЛОК і іншых. Вельмі добра дзейнічае драматычны гурток. Моладзь з беларускімі і польскімі п'есамі выязджала ў Дубяжына, Катлы, Чыжы, Красновесь, Даратынку, Мора, Кнаразы, Дубіны, Плёскі. Добрая ігра нашых артыстаў, прыгожыя ўборы і дэкарацыя захапляюць усіх гледачоў. Моладзь ставіла такія п'есы як «Ліліе», «Пярэстая Красуля», «Qvi pro qvo», «Жаніцьба», «Скарб Стэфана Зембы».

Крывянскі хор у 1964 годзе быў найлепшым самадзейным хорам ў нашым ваяводстве — заняў адно з першых месц на аглядзе гурткоў у Беластоку. За гэтую актыўную працу атрымаў ён узнагароду і дыпломы, якія віднеюць на сценах нашай святліцы.

А святліца ў Крывой — гэта сапраўдны цэнтр культурнага жыцця. Заходзяць туды людзі рознага ўзросту. Можна там аглядаць тэлевізар, чытаць часопісы, слухаць радыё, песні з пласцінак і магнетафона. Пры святліцы існуе «Клуб селяніна». Там можна напіцца кавы, пайграць у шахматы, шашкі і іншыя ігры. І так, моладзь нашай вёскі не нудзіцца. Гуляе на арганізаваных забавах і вечарынах. Арганізуе акадэміі звязаныя з вялікімі дзяржаўнымі святамі, як 1 Мая, 22 ліпеня. Для ўзбуджэння патрыятызму і памяці аб загінуўшых у час вайны, арганізуюцца спецыяльныя спатканні. У гэтым годзе адбылося спатканне з прадстаўніком Войска Польскага — ветэранам II сусветнай вайны і рэдактарам Аляксандрам Амільяновічам. Спатканне з рэдактарам адбылося пасля заканчэння друкавання ў «Газеце Беластоцкай» аповесці «Sauer-W — 1149». Аповесць гэтая ў многім адносіцца да нашай вёскі. Апісана там між іншымі дзейнасць КПЗБ у Крывой. На гэтае спатканне прыбылі амаль усе жыхары вёскі. Сярод іх было многа маці, братоў, жонак і дзяцей тых, якія загінулі за тое, што хацелі, каб на нашай зямлі быў спакой і справядлівасць. Спатканне з рэдактарам, дыскусія над яго кніжкамі, аб страшэннай апошняй вайне ўзбудзіла ў людзей яшчэ большую нянавісць да нямецкага мілітарызму, яго заборчай палітыкі.

**Іра Семянюк**
Крывая

### ЛЫСА ГАРА

Гара, якая знаходзіцца на слабодскіх палетках вядома ў навакольных вёсках. На ёй растуць мала спатыканыя кветкі тзв. сончыкі і вялікая колькасць пахнучых ландышаў. На гэтай гары даўно раслі крывыя сосны і ядловец. Цяпер усё перамянілася. Лясныя ўлады ачысцілі, выкарчавалі гару і засадзілі малады лес.

**Мікалай Сухадола**
Слабодка



Школьнікі з Рэдут пры капанні рову.

### ДРУЖНАЙ ПРАЦАЙ

Нядаўна адбылося вельмі цікавае спатканне лётчыка Ежы Мроза з грамадзянамі вёскі Рэдуты на Бельшчыне. На гэтым жа сходзе жыхары Рэдут пастанавілі пабудаваць жвіровую дарогу з Рэдут у Орлю. Пяцьдзесят працэнтаў работ будзе выканана грамадскім чынам. Да грамадскай працы прыступіла амаль усё насельніцтва вёскі на чале з сакратаром партыйнай арганізацыі Дзямянам Матыкай і солтысам Віктарам Бахэнкам. У гэтых працах брала ўдзел таксама школьная моладзь. Калі 4-кіламетравы адрэзак дарогі будзе пабудаваны, да Рэдут будзе даходзіць аўтобус ПКС-у.

Тэкст і фота
**Павел Зінкевіч**
Бельск

### ЦІШЫНЯ

У вёсцы Белкі ад 1948 года існуе пажарная каманда. На жаль, працуе яна слаба. Не адбываюцца тут трэніроўкі, не прыязджаюць сюды прадстаўнікі праўлення павятовай пажарнай каманды з Гайнаўкі. Пануе цішыня, быццам няма тут пажарнай каманды.

**Ярош**
Белкі

### НА САКОЛЬШЧЫНЕ

У Сакольскім павеце ў сувязі з Днямі асветы, кніжкі і прэсы адбыліся аўтарскія сустрэчы з вядомымі польскімі пісьменнікамі і журналістамі, а менавіта: з Алінай і Чэславам Цэнткевічамі, Балеславам Мроўчынскім, Алёйзым Срогай, Чэславам Янчарскім, Люцыянам Валяноўскім і Мар'янам Бяліцкім. 15 мая закончыўся ў Саколцы павятовы агляд чытальніцкага конкурсу «Здароўе і культура асновай сучаснай сям'і». Брала ў іх удзел 14 асоб, якіх выбралі на аглядах у сваіх асяроддзях. Ва ўсіх этапах конкурсу прымала ўдзел 321 жанчына з усяго павета.

*

14 мая адбыўся ў Саколцы павятовы сэймік культуры спалучаны з урачыстасцямі Дня дзеяча культуры. У час сэйміку было ўручана 40 адзнак «Заслужанага дзеяча культуры».
Як з гэтага бачым, Дні асветы, кніжкі і прэсы праводзіліся на Сакольшчыне вельмі цікава.

*

Як вядома, моладзь патрабуе разрыўкі. У Саколцы моладзь можа культурна правесці свабодны час у ПДК-у, альбо ў святліцы ПСС. У ПДК-у штодзённа адкрыта клуб-кавярня, а акрамя гэтага ПДК арганізуе ў суботы і нядзелі танцавальныя вечары ад 19—23 гадзіны, дзе моладзь можа пагуляць пад гукі «біг-біту», якія плывуць з плёнкі магнетафону. Такія самыя вечарыны з танцамі арганізуе ў кожны чацвер святліца ПСС-у. Тут іграе маладзёжны ансамбль электрычных гітар.

**Генрых Піліпайць**
Саколка




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

З Ленай пазнаёміўся я больш як паўгода таму назад. Я вучуся аж у Катавіцах, а Лена працуе настаўніцай у адной са школ на Беласточчыне. Мая родная вёска недалёка ад школы Лены, хіба якіх 8 кіламетраў. Я ад першага спаткання пакахаў Лену. Яна прыгожая, маладая. Працуе першы год у школе. Лена гаварыла, а па праўдзе пісала, што таксама мяне пакахала. Зрэшты, бачыліся мы з ёю толькі адзін раз. А праз цэлыя месяцы перапісваліся. І вось прыйшлі Каляды. Я ёй напісаў, што прыеду да яе ў школу. І такі меў намер. Але калі прыехаў у вёску, выйшла між мною і маімі сябрамі непрыемная справа. Я не мог тады прыехаць да яе. Праз знаёмую жанчыну перадаў ёй прывітанне і перапрасіў, што не змог прыехаць. І ад гэтага пачалося. Лена загневалася і прыслала мне такі ліст, што і цяпер забыць не магу. Прыслала таксама і мой здымак, які я пару месяцаў таму ёй паслаў. Напісала мне ў пісьме, што я не павінен да яе пісаць. І што я меў рабіць? Перастаў пісаць. Аднак усё пра яе думаў. І, вось цяпер рашыў напісаць ёй і ўсё выясніць (бо я ёй не напісаў так як было, проста сароме́ўся). Ужо канец навучальнага года і яна можа дзе-небудзь выехаць. Але я таксама амбітны хлопец і таму сам не ведаю, што рабіць. Падкажы мне, Сэрцайка, як тут будзе лепш.

**Пеця з Катовіц**

Дарагі Пеця! Ты зрабіў памылку, што адразу не напісаў праўды. Яна напэўна б цябе лепш зразумела тады. Хоць ты і перапрашаў, аднак напісаў загадкова, без выяснення канкрэтнага і праўдзівага. Не панізішся ты перад Ленай, калі напішаш ліст да яе. Толькі не выясняй лістоўна, а напішы ёй, калі прыедзеш, бо ты ж таксама прыязджаеш на канікулы, і напішы, што пры спатканні ўсё ёй раскажаш. Калі Лена цябе кахае, напэўна пастараецца з табой сустрэцца, прыдзе на гэтае спатканне. І тады ўсё выясніце. Гэтак будзе найлепш.
Жадаю ўсяго добрага

**Сэрцайка.**

**У гэты момант з альшаніку выходзіць паўтара дзесятка разведчыкаў. «Акоўцы» паварочваюць галовы, талопяцца. Новенькія аўтаматы «ППШ», ладная дэсантная форма, грудзі — у бліскучых ордэнах і медалях. Сваім выглядам хлопцы як бы цвярдзяць: глядзіце, мы — прадстаўнікі арганізаванай, паўнакроўнай арміі і дзяржавы... На людзей, абяссіленых акупацыяй і палітычнымі сваркамі гэта робіць уражанне.**

**Табуноў прыкладае далонь да пілоткі:**
**— Сябрам палякам чэсць!**
**Адказвае нястройны, разгублены хор. Вайцяхоўскі ківае галавой Табунову, з пытаннем глядзіць на паручніка.**
**— Выйшла памылка, пане капітане, — з пашанай тлумачыцца Вільк. — Нашы прынялі іх за бандытаў...**
**— Як будзем лячыць?**
**— Бяром гэта на сябе. Пакіньце іх нам. Вызавем з Беластока хірурга...**
**— Тады пытанне лічу вычарпаным!**
**— Толькі прашу: калі вам трэба будзе харчоў, кажыце, выдадзім самі. Па лесе цягаюцца правакатары, бандыты, што часамі немажліва распазнаць...**
**— Дамовіліся!**
**— Сядайце, пане капітане! Сядайце, панове!**
**— Дзякуй!**
**Камбрыг апускаецца на бервяно. Хлопцы застаюцца на месцы. Стаю і я ды з пашанай да важнасці хвілі чакаю, каб перакладаць.**
**— Мадэй, бімбру! — кідае паручнік.**
**У іх усё нагатоўлена. Умомант ад'ютант прыносіць два чайнікі самагонкі. Затым валачэ ў плашч-палатцы закуску. Вільк просіць дазволу пачаставаць і разведчыкаў. Мадэй абыходзіць людзей і з дзюбкі пасудзін разлівае гарэлку. Падае і мне накрыўку ад нямецкага кацялка, толькі я адмаўляюся.**
**Вайцяхоўскі дачакаўся, пакуль усім напоўнілі пасуду, чокнуўся з паручнікам. нібы адно з-за павагі да традыцыі, урачыста падносіць самагонку да вуснаў, каштуе. І разведчыкі прабуюць яе сціпла, быццам дагэтуль у рот не бралі. Бяруць яе, як штосьці святое, і палякі. Хоць ты прасі накрыўку!**
**Такое ўражанне, быццам сапсаваў зладжаную песню цэлай кампаніі.**
**— Выходзіць, што па аднаму пытанню дамовіліся! — адстаўляе шклянку камбрыг.**
**— Так ест! — згаджаецца афіцэр.**
**— Другое. Мы б'ём немцаў і вы іх б'яце...**
**— Натуральна!**
**— Чаму ж нам не дамовіцца біць іх разам?**
**Мы тут усяго хвілін дваццаць, а ад Вайцяхоўскага палякі ўжо ў захапленні. Чорт, у мяне хопіць дзёрзкасці зайсці зноў у якія-небудзь Каўняны, нават у гарнізон. І хопіць цярпення, каб падпільнаваць яшчэ не адзін поезд. Партызанства ў сабе маю дастаткова. Але як стаць такім тонкім псіхалогам, вынаходлівым палітыкам, дыпламатам?!..**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 450 | 380 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,40 | 1,50 | 1,35 |
| масла | кг | 64 | 55 | 50 |
| ялавічына | кг | 38 | — | — |
| свініна | кг | 38 | 38 | 36 |
| сала | кг | 34 | — | 35 |
| бульба | цэнт. | 145 | 85 | 90 |
| цыбуля | кг | 5 | 3 | 3 |
| капуста | кг | — | — | — |
| морква | кг | 2 | 2 | 2,5 |
| буракі | кг | 3 | 2 | — |

# КІНО

Праграма
на 7—12. VI. 1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Дубіны**
„Ambicja" (radz.), „Czas miłości" (rumuński), 11—12.

**Нарва**
„Okres probny" (radz.), „Obca krew" (radz.), 8—12.

**Нараўка**
„Czarne i białe" (USA), „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 8—12.

**Чыжы**
„Człowiek, który zabił Liberty Valancea" (USA), „Wojna trwa" (włoski), 8—12.

**Дубічы Царкоўныя**
„Człowiek z foografii" (jugosłowiański), „Drewniany różaniec" (polski), 8—12.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Cena odwagi" (bułg.), „Orkiestra wojskowa" (węgierski), 8—12.

**Райск**
„Nieznajomi z pociągu" (USA), „Niewidomy muzyk" (radz.), 8—12.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Czarne skrzydła" (polski), 7—8. „Rękopis znaleziony w Saragossie" (polski), 9—10. „Sam pośród miasta" (polski), 11—12.

**Міхалова**
„Kto sieje wiatr" (USA), 7—8. „Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 9—10. „Wystrzał" (polski), 11—12.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Wojenna przyjaźń" (węgierski), 7—8. „Szalone wakacje" (jugosł.), 9—10. „Przybycie tytanów" (USA), 11—12.

**Мілейчыцы**
„Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 7—8. „Zarezerwowani dla śmierci" (NRD), 9—10. „Dni grozy i śmiechu" (USA), 11—12.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Przygody Mauchausenna" (czeski), „Czerwony atrament" (węgierski), 8—12.

**Сідра**
„Król strzelców" (czeski), 7—8. „Trzy życzenia" (czeski), 9—10. „Mam 20 lat" (radz.), 11—12.

**Сухаволя**
„Ranny w lesie" (polski), „Dwadzieścia godzin" (radziecki), 11—12.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), „Poste restante" (rumuński), 11—12.


НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiebiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 5458. Bltk D-3

